


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 37 (66). Слонім. 10 — 16 верасня 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт свабодны


**НАВІНЫ**

## Крэдыт для школьнікаў

**15 верасня 1998 года Слонімскі філіял ААБ "Беларусбанк" заканчвае выдачу крэдытаў бацькам, якія маюць дзяцей школьнага ўзросту.**

Дырэктар банка Ніна Аўдзейчык сказала, што з 1 жніўня па 15 верасня іх установа выдае крэдыты сваім укладчыкам, якія маюць дзяцей школьнага ўзросту, ці навучэнцаў ПТВ, тэхнікумаў, каледжаў і вышэйшых навучальных устаноў.

Памер крэдыту складае 50 мінімальных заработных плат. Тэрмін яго пагашэння — 9 месяцаў, а стаўка, якая ўстаноўлена за такую паслугу, — 35% гадавых.

Каб атрымаць крэдыт, неабходна прадставіць даведку з навучальнай установы, выклік альбо білет навучэнца.

## Нашы скрыпачы выступяць у Мінску

**110 хлопчыкаў і дзяўчынак сёлета вытрымалі конкурс і сталі навучэнцамі дзіцячай музычнай школы, а 60 яе выпускнікоў атрымалі дыпломы музыкантаў.**

Па словах дырэктара музычнай школы Наталлі Мазец, чатыры выпускнікі сталі навучэнцамі Гродзенскага музычнага вучылішча.

— Цяпер юныя музыканты настойліва рыхтуюцца да рэспубліканскіх конкурсаў, якія адбудуцца на працягу года, — сказала Наталля Мазец. — Закончыўся першы тур па адбору юных талентаў для ўдзелу ў рэспубліканскім конкурсе скрыпачоў імя Валадарскага, які пройдзе з 3 па 6 лістапада ў Мінску. Гонар Слонімшчыны на ім будуць абараняць юныя скрыпачкі Крысціна Кедук і Алена Чурыла.

## Здаюць хлеб

**На прыёмны пункт камбікормавага заводу здадзена каля 13 тысяч тон новага ўраджаю пры плане 16150.**

Хлеб працягвае пастунаць у дзяржаўныя засекі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**НАДВОР'Е**

**9–10 сентября погода преимущественно без осадков. Ветер юго-восточный, южный, скорость 5–10 м/с. Температура воздуха ночью 5–10 градусов тепла, днем — 16–21.**

**ТРЫБУНА**

# "УСЁ Ж ТАКІ НА БЕЛАРУСІ ЖЫВЕМ"

**По дадзеных гарадскога аддзела адукацыі сёлета ў Слоніме няма ніводнага першага класа з навучаннем на беларускай мове. Таму з гэтай нагоды карэспандэнт "ГС" звярнуўся да жыхароў горада з пытаннем: "Ці згодны вы, каб вашыя дзеці вучыліся ў беларускамоўным класе?".**

**Алена Мікалаеўна Жыгавец, клубны работнік:**



— Вядома, згодна. Мы жывем у Беларусі, таму павінны ведаць сваю родную мову.

**Надзея Бараболкіна, медсястра:**



— Я не хацела б, каб маё дзіця вывучала ўсе прадметы па-беларуску, я не супраць беларускай мовы, але мне здаецца, што матэматыку цяжка вывучаць на беларускай мове.

**Наталля, работніца слонімскай фабрыкі мастацкіх вырабаў:**



— Не, я не супраць таго, каб маё дзіця вучылася на роднай мове, усё ж такі на Беларусі жывем.

**Тацяна і сын Сашка (2 гады):**

— Вядома, родную мову трэба ведаць. Напрыклад, калі я была на Украіне, там усе размаўляюць толькі паўкраінску. У адной жанчыны



мы нешта запыталі на рускай мове, дык яна адказала: "Гэта не Масква, каб вам па-рускі адказваць...".

**Уладзімір:**

— Я згодны. Калі ў нас



будзе незалежная рэспубліка, то, вядома, трэба будзе ведаць сваю родную мову.

**Валянціна Міхайлаўна, дачка Юлія:**

— Я не супраць. Раней мая дачка займалася на беларускай мове да чацвёртага класа, а зараз увесь клас пераявялі на рускую мову. Сказалі, што падручнікаў не хапае. У мяне адно дзіця вучылася на беларускай мове, другое — на рускай. І так добра, і так...

**Віктар Шастак:**



— На Беларусі жывем, беларускую мову павінны ведаць.

**Тамара Анатольеўна Дударава, цырульнік:**



— Вядома, трэба каб нашы дзеці займаліся ў беларускай школе. Хаця беларуская мова цяжкавата даецца.

**Валерый, дачка Кацярына:**



— У асноўным мы карыстаемся рускай мовай, на беларускай мове размаўляюць толькі ў вёсцы, а шкада.

**Тацяна:**

— Не, я не згодна. Мы прывыклі на рускай мове размаўляць, беларуская мова цяжкая.



**Алена, Тацяна:**



— Вядома, згодны. Беларуская мова усё ж такі родная мова.

**Алена Іванаўна (фатаграфавацца адмовілася):**

— Мая старэйшая дачка займаецца на беларускай мове ў другой школе. Падручнікаў пакуль хапае. Цяжкасцей з навучаннем ніякіх няма. Я не супраць беларускай мовы.

**Георгій (фатаграфавацца адмовіўся):**

— Я толькі за. Крыўдна, што нашы дзеткі ў школе вучаць родную мову, як замежную.

**Вольга ШЫНКЕВІЧ**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

**НАВІНЫ**

## Зарплата натурай

**Міністэрства сельскай гаспадаркі прапанавала калгасам і саўгасам рэспублікі выплаціць заработную плату жывёлай, малаком і збожжам.**

Менавіта такім чынам з-за адсутнасці грошай мінскае начальства спадзяецца разлічыцца з запазычанасцямі па зарплаце. У сваю чаргу селянін, які атрымаў збожжа ў залік заробку, можа яго прадаць нарыхтоўчым прадпрыемствам. У Слоніме гэтым займаецца камбікормавы завод. Прадпрыемства прымае збожжа і пералічвае гаспадаркам грошы для разліку з калгаснікамі.

Дарэчы, адна тона харчовага жыта каштуе 5,1 млн. руб., кармавога — 4 млн. руб.

Як паведамілі карэспандэнту "ГС" у раённым сельгасупраўленні, большасць гаспадарак Слонімшчыны ўжо разлічылася натурай па запазычанасцях.

**Анатоль МІРСКІ**

## Чаму вучым дзяцей?

**Сёлета вучні школ атрымалі новыя дзённікі, за якія заплацілі па 13 тысяч рублёў.**

На першай старонцы яго змешчаныя герб і сцяг рэспублікі, а ў канцы — "правы і абавязкі вучня". Чытаю: "Вучань мае права на бясплатнае карыстанне падручнікамі і навучальнымі дапаможнікамі". А на самой справе за падручнікі бацькі плоцяць грошы. Дык навошта гэта пісаць.

**Міхась АКУЛКА**

**ФЕЛЬЕТОН**

# НАЧАЛЬСТВО НАДО ЗНАТЬ В ЛИЦО

Мэр города Закозельска Никодим Андрюхин был в отличном настроении. Секретарша только что положила на его стол решение облисполкома, один из пунктов которого гласил: "За многолетний плодотворный труд в деле развития народного хозяйства города и в связи с сорокалетием со дня рождения наградить мэра города Закозельска Никодима Лукича Андрюхина почетной грамотой облисполкома и денежной премией в размере пяти должностных окладов".

Потирая от удовольствия руки, Андрюхин решил позвонить своему закадычному другу, директору маргаринового завода Викентию Васехину, чтобы поделиться своей радостью:

— Привет, Викентий Сидорович! А не ударить ли нам с тобой сегодня по пивку? Да с вяленым лещиком? Как мыслишь?

— А что, для этого есть основания? — спросил Васехин.

— Есть, есть, дружище! — прошипел в трубку мэр. — Я через минут десять заеду за тобой.

Вскоре приятели стояли за стойкой маленького уютного пивбара, расположенного невдалеке от городского рынка, и с удовольствием посасывали холодное пиво.

Время было обеденное, и Андрюхин не спеша поделился с дружком своей радостью.

— Так здесь пивом не обойдешься, дорогой Никодим Лукич, — весело возразил Васехин.

— Не время теперь, — заметил Андрюхин. — Ближе к вечеру что-нибудь покрепче придумаем.

Опорожнив по кружке, друзья заказали по второй, с блаженством закурили, пуская синие кольца дыма в потолок.

В это время по ступенькам в бар спустились два молоденьких милиционера. Увидев курящих мужчин, постовые подошли поближе и, представившись, сделали замечание Андрюхину и Васехину:




— Вы что, мужики, не видите табличку: "Курить запрещено!"

— А что, трудовому человеку уже и покурить нельзя?! — сыронизировал Андрюхин.

— В таком случае пройдемте в отделение! — командирским тоном сказал сержант.

И постовые, взяв под руки курильщиков, направились к выходу. Увидев, что дело принимает непредвиденный оборот, Андрюхин начальственным тоном сказал:

— Вы знаете, кто я? Да я мэр города!

— Может еще скажешь, что ты Папа Римский? — ехидно заметил сержант и попросил показать удостоверение личности.

Пошарив в карманах и не найдя никаких документов, друзья послушно направились к ближайшему отделению милиции.

В дежурной части обоих дружков сразу узнал оперативный дежурный и, подойдя к ним строевым шагом, лихо доложил о состоянии дел на территории города. Постовые от неожиданности опешили и стали потихоньку пятиться задом к выходу.

— Перестарались мы с тобой, — сказал своему напарнику сержант. — Ох, и влетит нам за это.

Предчувствие его не обмануло. На следующий день почти все утреннее совещание начальник отделения милиции майор Зазуля говорил о случае с мэром.

— До чего надо быть ограниченными людьми, чтобы не знать в лицо мэра! — распекал своих подчиненных начальник. — Ну, что — прикажете мне портрет мэра в ленкомнате повесить?

— Да мы вот что подумали, — оправдывались постовые. — Если это мэр города, то по логике вещей он должен был курить "Мальборо", а он смолил "Беломор".

Под дружный смех милиционеры разошлись по участкам.

**Георгий СОЧИВКИН**

СЛОНІМШЧЫНА *нашы дзеці*







*Фота Мікалая СУПРУНА*

ВЫХАВАННЕ

## «Цімураўцы»

**На мінулым тыдні вучні Сасноўскай школы, якія збіралі на саўгасным полі лён, зрабілі налёт на сад і агарод жыхаркі вёскі Грынкоўшчына Валянціны Сахонь.**



Пасля іх «візіту» палеткі жанчыны сталі падобныя на вайсковы палігон. Дырэктар Сасноўскай СШ Валерый Жаўнерык пацвердзіў гэты факт. Ён таксама сказаў, што прозвішчы дзяцей, якія ўчынілі напад на сядзібу Сахоняў, устаноўлены. З іх бацькамі ўзгадняецца пытанне, каб пакрыць выдаткі гаспадарам.

Валянцін ЧУРЫЛА

## Кожны хацеў стаць медыкам

**У гэтым годзе 315 выпускнікоў школ і ПТВ падалі заявы ў Слонімскае медвучылішча, каб атрымаць спецыяльнасць медыка. З іх здалі экзамены 275 чалавек, без уступных экзаменаў былі залічаны 32 абітурыенты.**

Пра гэта карэспандэнту «ГС» паведаміў дырэктар медвучылішча Ігар Ванькович. Ён адзначыў, што станоўчыя адзнакі на экзаменах атрымалі толькі 143 чалавекі, што склала 52% ад агульнай колькасці абітурыентаў. Умовы конкурсу вытрымалі толькі 90 чалавек.

Па яго словах, большасць абітурыентаў былі з Гродзенскай вобласці — 242. З Брэсцкай вобласці было пададзена 62 заявы, 3 — з Мінскай вобласці. Са Слоніма паступалі 58 чалавек, 23 — са Слонімскага раёна.

Валянцін ЧУРЫЛА

## Свята на возеры Гаць

**У мінулую суботу на возеры Гаць (Баранавіцкі раён) адбылася традыцыйная сустрэча вернікаў Новаапостальскай царквы са Слоніма і Баранавіч.**

Свята пачалося з канцэрта, для моладзі былі арганізаваны семінары, конкурсы, гульні. Было і багатае застолле са страў заморскіх прадуктаў. На сустрэчы прысутнічалі госці з Германіі.

Міхаіл СТАРЫК, фота аўтара



*Слонімская абшчына Новаапостальскай царквы*

НАВІНЫ

## "Мох" прадае торф

**Як паведаміў дырэктар прадпрыемства "Мох" Пётр Крынчык, сёлета нарыхтавана 1500 тон торфу.**

Адна тона паліва каштуе 217 тысяч рублёў, што ў 6 разоў танней за торфабрыкет.

## На добрую дарогу патрэбны добрыя грошы

**Больш як 15 кіламетраў дарогі на аўтатрасе Баранавічы — Гродна адрамантавалі сёлета работнікі Слонімскага ўчастка ДУ-7.**

На гэта спатрэбілася 15611 тон асфальтабетону і 15,6 млрд. руб.

## Без дроў не будзем

**Сёлета кубаметр дроў каштуе 300 тыс. руб., адна тона брыкету — 1,3 млн. руб, тона вугалю — 3 млн. руб.**

Карэспандэнту "ГС" дырэктар прадпрыемства па паліўнаму забяспячэнню Яўген Вяселік сказаў, што сёння не існуе праблем з названымі відамі паліва. Па яго словах, цяпер у раёне налічваецца 1840 чалавек, якія маюць падставы атрымаць паліва па льготах. Для таго, каб задаволіць патрэбы ўсіх ільготных спажыўцоў, толькі ў гэтым годзе райвыканкам павінен выдаткаваць 2,3 млрд. руб. датацый.

Валянцін ЧУРЫЛА

ПАСЛЯ НАДРУКАВАНАГА

***

**На мінулым тыдні ў настаўніцкім інтэрнаце, што на вуліцы Войкава, адбыўся сход жыхароў, які праводзіў камендант Анатоль Юзвовіч.**

Сярод іншага ён адзначыў, што публікацыя ў «Газеце Слонімскай» "Войкава, 21" ("ГС" № 33 ад 13 жніўня) "абмяркоўвалася" на пасяджэнні прафкама гарадскога аддзела адукацыі, на якім прысутнічалі загадчык аддзела А.Р.Бумагін і старшыня прафкама К.А.Сурава. Ніхто з іх "не быў супраць, каб адрамантаваць інтэрнат, але грошай на гэта — нуль", — сказаў Юзвовіч. Па яго словах, фасад інтэрната запланавана адрамантаваць у наступным годзе, а вось рамонт у пакоях павінны рабіць самі жыхары. Мяркуецца, што на набыццё фарбы, шпалераў і іншага аддзел адукацыі выдзеліць грошы.

Мікола КАНАНОВІЧ

***

**В "Газеце Слонімскай" за 23-29.07.98 №30 была помещена статья "Дажыліся...", где отмечены магазины д.Ходевичи, д.Ганьки, д.Василевичи, в которых, по словам журналиста, отсутствовали некоторые товары, предусмотренные ассортиментным перечнем.**

Правлением Слонимского райпо в эти магазины были направлены специалисты, которые на местах произвели проверку торговых предприятий по соблюдению ассортимента товаров, оказали помощь в выкладке товаров. Согласно заявок, недостающие товары были завезены в магазины.

За 7 месяцев 1998 года перебоев в торговле спичками в системе райпо не допускалось.

**Т.И. КАШЕНЯ, заместитель председателя по торговле Слонимского райпо**

ЗДАРЭННІ

## Няшчасце на возеры

**У аўторак, 8 верасня, каля 18 гадзін вечара на возеры ля вёскі Сакалова ўтапіўся 6-гадовы хлопчык з Вялікіх Асабнякоў.**

У гэты дзень ён разам са сваім таварышам выращыў пакупацца, але плаваць добра не ўмеў.

Валянцін ЧУРЫЛА

## Камбайн забіў чалавека

**У вёсцы Кастровічы здарыўся жудасны выпадак.**

Мясцовы 45-гадовы жыхар Іван Баравік вырашыў абмалаціць ячмень на сваім прысядзібным участку. З гэтай нагоды ён папрасіў дапамогі ў калгаснага камбайнёра. У час абмалоту гаспадар трапіў пад шнэк. Механізм за некалькі хвілін літаральна раздрабіў мужчыну.

Міхась АКУЛКА

НАВІНЫ

# СЛОНІМЦЫ НА БАРАДЗІНСКІМ ПОЛІ

Сябры Слонімскай філіі ваенна-гістарычнага клуба "Мінскі пяхотны полк" нядаўна ўдзельнічалі ў святкаванні чарговай гадавіны Барадзінскай бітвы 1812 года.

Разам з імі ў Расію ездзілі і вучні кадэцкага класа, якія займаюцца ў дзевятай сярэдняй школе. 5-6 верасня на Барадзінскім полі адбыліся паказальныя выступленні ваенна-гістарычных клубаў з Расіі, Украіны і Беларусі. А пасля пачаліся "баявыя дзеянні" з выкарыстаннем зброі часоў вайны 1812 года.

Слонімская дэлегацыя, якая прадстаўляла Беларусь на ўсерасійскім фестывалі "Дзень Барадзіно", зрабіла



экскурсію па Барадзінскім полі. Сярод іншых помнікаў там знаходзіцца і пастамент, прысвечаны Мінскаму пяхотнаму палку, які ў складзе рускай арміі ўдзельнічаў у славутай бітве.

Сяргей ЁРШ

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

ЗАКАНЧВАЕЦЦА падпіска на **«Газету Слонімскую»** на *IV* квартал 1998 года. Па падпісцы наша газета будзе каштаваць танней.

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі:
231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэл. 2-14-39.
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 9 верасня 1998 г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 6.700 экз.
Заказ №2539
© «Газета Слонімская». Спасылка на «ГС» абавязковая.
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

УСПАМІНЫ

# ДВАЦЦАЦЬ ПЯЦЬ ГАДОЎ ЗА "ЧАЙКУ"

**У мінулым годзе, будучы ў Вільні, я спаткаўся з нашай зямлячкай Лёдзяй Кавальчук. Упершыню пра яе даведаўся з кнігі ўспамінаў паэткі Ларысы Геніюш "Споведзь". Кавальчук і Геніюш на пачатку 50-х гадоў сядзелі ў адным бальшавіцкім канцлагеры. Наша зямлячка была зняволена за ўдзел у падпольнай патрыятычнай арганізацыі слонімскай моладзі "Чайка". Сёлета Лёдзі Кавальчук споўнілася 70 гадоў. Прапаноўваю дыктафонны запіс яе ўспамінаў.**

– Падчас нямецкай акупацыі я вучылася ў слонімскай прагімназіі. Спачатку яна была ў будынку, дзе пасля месцілася другая школа. Пазней прагімназію перанеслі на Студэнцкую вуліцу.

Была я ў Саюзе беларускай моладзі. У нас не пыталі згоды, калі прымалі. Вывялі на плошчу, усіх пастроілі, выдалі абмундзіраванне. Памятаю, што якраз мая мама з вёскі прыехала. Як убачыла ўсё гэта, адразу ў плач... А я кажу: "Мама, дык мне тут не кепска! Што ты плачаш?.."

Першы раз пра "Чайку" пачула ў 1946 годзе, калі вучылася ў першай школе ў дзевятым класе. Мая сяброўка Ніна Карач пра гэта паведаміла. Калі мы сабраліся на першы сход каля Шчары, якраз над намі пралятала чайка. Вось і назвалі мы так сваю арганізацыю. Па-мойму, гэта прапанаваў Супрун. Другі сход быў таксама каля Шчары. Гаварылі пра тое, што нам трэба было рабіць у той сітуацыі. Выбралі камітэт. Старшынёй – Супруна, а яго намеснікам – Міхася Ракевіча. Не ведаю, ці былі яшчэ сустрэчы, бо я на іх не прысутнічала.

Арыштоўвалі нас па чарзе. Каго першага, я не ведаю. Але, магчыма, Ніну Карач. Бо да мяне з суседняй вёскі прыйшла дзяўчына Вольга



*Леакадзія Кавальчук*

Пасько (я з ёй вучылася ў Слоніме) і сказала: "Лёдзя, за Нінай ужо прыходзілі". Аказалася, да Вольгі прыбегла Карач і сказала, што яна ўцякла праз акно, калі ўбачыла, што за ёю ішлі чэкісты. Ніна яшчэ сказала: "Перадай Лёдзі, што за мной ужо прыходзілі". Ну і ўсё. Я адразу зразумела, што калі да яе прыходзілі, значыць, і да мяне таксама прыйдуць...

Пасля арышту (летам 1947 г. у вёсцы Церахоўшчына, цяпер Дзятлаўскі раён – **С.Ё.**) адну ноч я была ў слонімскім МГБ. Чэкісты нічога не пыталіся. А ўжо ў Баранавічах пачаліся допыты. Як казалі, я была арыштавана апошняй з "Чайкі". Мяне не каталі, не білі. Бо ўжо ўсё ведалі, а я – не.

Як Ніну Карач арыштавалі, цяжка сказаць. Яе са мной не судзілі. Я адна сядзела на судзе сярод дзевятнаццаці хлопцаў. Яны былі з усёй Беларусі, многіх я не ведала. Памятаю слонімскіх: Ракевіча, Чыгрына... Калі я ўжо адсядзела год і была на перасылцы, заходзіць у камеру ахоўнік і пытаецца: "Кавальчук, хто такая?". А я спала на нарах. Дзяўчаты гавораць: "Уставай, цябе ахоўнік выклікае!". Я адгукнулася. "Ну, ідзі сюды". Падыйшла да дзвярэй, а там хлопцы з нашай арганізацыі атрымалі пасылку і выграшылі са мной падзяліцца... Ды і ахоўнік добры папаўся. Гэта было ў Оршы, на перасылцы. Я нават і прозвішчаў тых хлопцаў не ведала, а яны мяне, відаць, з суда запомнілі.

Пасля быў суд у Баранавічах, калі не памыляюся, 25 студзеня 1948 года. Некаторым прысудзілі па 8 гадоў, а мне далі 25. Да расстрэлу нікога не прыгаварылі... Пасля суда я яшчэ два тыдні сядзела ў Баранавічах, а пасля мяне зноў прывезлі на перасылку – у Оршу...

Спачатку я была ў Клытаве, гэта чыгуначны раён за Пячорай. Праз месяц мяне перавялі ў нейкі "Рактос", "шырпатрэбаўскі" камбінат. Там было лепш, бо добра кармілі. Старэйшыя вязні да мяне адносіліся, як да дачкі. Пасля была ў Абезі (Комі АССР), адкуль трапіла ў Інту. У Інце я была ўжо вольная, атрымала дакументы. Там пазнаёмілася з Ларысай Геніюш, а яна пазнаёміла мяне з маім будучым мужам...

У 1954 годзе вызвалілася, а праз два гады я прыехала на Беларусь. Спачатку жыла ў роднай вёсцы, аж пакуль з Поўначы не вярнуўся муж. Тады мы пераехалі ў Вільню. Там у нас нарадзілася дачка.

**Падрыхтаваў Сяргей ЁРШ**

ЗАБЫТАЕ ІМЯ

# БЫЛ РЕКТОРОМ УНИВЕРСИТЕТА

**Хирург и анатом Венцеслав Пеликан – малоизвестное имя в нашей истории. Родился он 11 сентября 1790 года в Слониме в дворянской семье. Первоначальное образование получил в Молодечно, затем прослушал курс филологических наук в Виленском университете.**

В 1813 году Венцеслав Пеликан с золотой медалью окончил медицинское отделение Петербургской медико-хирургической академии. А через год представляет ученому совету академии список сделанных им 58 операций. За работу "Об аневризмах" ему присваивается степень доктора медицины и хирургии.

С 1817 по 1831 год деятельность нашего земляка вплотную связана с Вилен-ским университетом. Он был избран деканом медицин- ского отделения, а в 1826 году – ректором университета.

В 1831 году Венцеслав Пеликан возвращается в Петербург, где работает инспектором министерства внутренних дел России, а с 1845 года – директором медицинского департамента военного министерства. В возрасте 75 лет его назначают председателем медицинского совета министерства внутренних дел.

Венцеслав Пеликан внес немалый вклад в науку нормальной и топографической анатомии.

Помимо чтения лекций, он издавал учебные пособия, создавал новые хирургические инструменты. Он является автором дугообразной прогнутой пилы, которая при перепиливании костей не травмирует мягких тканей. Изобрел специальную фрезу для трепанации черепа.

Много нового внес наш земляк в хирургическую практику. Особенно велики его заслуги в хирургии сосудов.

Венцеслав Пеликан был председателем комитета для составления проекта училищ Виленского учебного округа и нового устава Виленского университета. Являлся почетным членом-корреспондентом Петербургской медико-хирургической академии, членом Виленского и Варшавского медицинских обществ, общества киевских врачей и Харьковского университета.

**Сергей МЕТЕЛЬСКИЙ**

ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ГАЗЕТЫ

## Зламаць кулацкі сабатаж

Азярніцкі сельсавет усё больш адстае па збожжанарыхтоўцы і займае зараз перадапошняе месца сярод сельсаветаў раёна. У кожным населеным пункце тут ёсць яшчэ многа сялян, якія не прыступілі да здачы хлеба дзяржаве. Вёска Азярніца налічвае 27 гаспадарак, якія не завезлі на дзяржаўныя нарыхтоўчыя пункты ні кілаграма хлеба. Многа кулацкіх гаспадарак стала на шлях яўнага сабатажа хлебапаставак, а сельскі савет, па сутнасці справы, ніякіх мер да іх не прымае. Па дзве тоны хлеба павінны дзяржаве Аляксей Ладаўчык, Марыя Байкевіч з вёскі Збочнае, па паўтары тоны – Мікалай Валчок з в. Клепачы, Мікалай Сыантовіч з в. Азярніца. Злосна сабатуюць хлебапастаўкі Уладзімір Гушча, Іван Ракевіч, Андрэй Врублеўскі з вёскі Клепачы, Сцяпан Грыцалевіч, Лявон Мукасей з в. Азярніца. Яны павінны дзяржаве па 60 пудоў хлеба кожны.

Большасць упаўнаважаных вёсак і дзесяцідворак служаць асабістым прыкладам для аднасяльчан. Але некаторыя з іх ганьбуюць ганаровае імя сельскага актывіста. Так, упаўнаважаны вёскі Плаўскія Станіслаў Плаўскі і дзесяцідворнік Вітальд Краўцэвіч з гэтай-жа вёскі, яшчэ не пачалі разлічвацца з дзяржавай па пастаўцы збожжа і сена.

Пара паканчыць з сабатажам кулакоў і іх пасобнікаў.

**М.Мівіч**

**"Вольная праца" (Слонім), №72 (520), 24 жніўня 1947г.**

ФОТААРХІЎ *1952 год*



24 лютага 1952 года ў вёсцы Русакова праходзіў камсамольскі «воскреснік». Яшчэ быў жывы Сталін, яшчэ працягваліся рэпрэсіі, не паспелі вярнуцца з бальшавіцкіх канцлагераў нашыя землякі, поўным ходам ішла русіфікацыя Заходняй Беларусі...

Нам невядома, з якой нагоды праводзілася гэтае мерапрыемства, як невядомы і прозвішчы большасці людзей на гэтым здымку. Удалося толькі ўстанавіць, што на картцы сфатаграфаваны сакратар райкама камсамола Юрый Чэрапанаў і нехта В. Зіноўеў і А. Сінкевіч.

ЗНОЙДЗЕНА Ў АРХІВЕ

# ЯК ЖЫХАРЫ СЛОНІМА БОМБЫ ЗДАВАЛІ

**У гады грамадзянскай вайны ўлады ў Слоніме мяняліся досыць часта. Пасля трохгадовай нямецкай акупацыі пэўны час у горадзе гаспадарылі бальшавікі, на змену якім у сакавіку 1919 г. прыйшлі палякі. Слонімцы, значную частку якіх у той час складалі яўрэі, да кожнай з уладаў не мелі вялікіх сімпатый. І тут няма нічога дзіўнага, бо ва ўмовах ваеннага часу рэквізіцыі здзяйсняла кожнае войска, што праходзіла праз горад. А часам распачынаўся звычайны рабунак... Вось і стараліся мястэчкоўцы перажыць гэты "смутны" час і захаваць сваю маёмасць, дачакацца нейкай сталай улады. Многія найбольш давяралі зямлі, куды закопвалі каштоўнасці, грошы, харчы, вопратку і нават зброю.**

**20 ліпеня 1920 года ў Слонім уступіла Чырвоная Армія, пачала аднаўляцца савецкая ўлада. Новыя кіраўнікі горада стараліся навесці ў ім парадак, змагаліся адначасова і з контррэвалюцыяй і з беспрацоўем. Многія жорсткія меры, якія прымалі ў той час савецкія ўлады, апраўдваліся цяжкімі ўмовамі вайны. Уся дакументацыя Слонімскага Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта захавалася, бо яе нейкім цудам паспелі вывезці ў Мінск у верасні 1920 года пад абстрэлам польскіх перадавых атрадаў.**

**Сёння мы прапануем нашым чытачам пазнаёміцца з двума дакументамі, знойдзенымі ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, і адчуць увесь трагізм таго часу, у які даводзілася жыць яшчэ не такім далёкім нашым продкам. У дакументах выпраўлены памылкі і расшыфраваны скарачэнні.**

**Приказ №1**

Слонимского военно-революционного комитета
21 июля 1920 года

1. Граждане! Советское Правительство после полуторагодичного перерыва вновь освободило город Слоним и уезд от ига польской шляхты. Теперь вновь трудящиеся г. Слонима и уезда смогут свободно заниматься вопросами политической, профессиональной и культурно-просветительской работы, не опасаясь преследования жандармерии. Уездный Военно-Революционный Комитет призывает всех граждан к спокойствию и поддержанию порядка в городе,

Приказывает:

2. Владельцам торговых предприятий немедленно открыть таковые и производить продажу, не повышая цен.

3. Всем гражданским лицам сдать в 3-дневный срок все имеющееся в руках огнестрельное и холодное оружие и другие боевые огнестрельные запасы, т.е. гранаты, бомбы, порох и пр. Лица, не сдавшие в срок и не заявившие таковой, будут привлечены к строгой ответственности в качестве контр-революционеров, как враги народа.

Прием оружия производится в управлении коменданта города.

4. В 24 часа указать и зарегистрировать все имеющиеся в городе и его окрестности склады, как военные, так и гражданские, и вещи военного обмундирования польской и русской армий. Виновные в укрывательстве выше упомянутого будут привлекаться к строгой ответственности по военно-революционному времени.

5. Против лиц, замеченных в агитации и пропаганде подрыва Рабоче-Крестьянской власти и в других проступках контр-революционных попыток, будут приниматься суровые меры, дабы в корне пресечь подобное явление.

6. Лица, замеченные в бандитизме и насилиях, и пойманные на месте преступления, будут предаваться высшей мере революционного наказания – расстрелу.

Лица также пойманные на месте преступления в порче телефонно-телеграфных проводов будут предаваться высшей мере наказания – расстрелу.

Слонимский Уездный Ревком
Председатель М. Николаев
Член Громов
Секретарь Крюченко

**Напоминание Слонимского уездного военревкома**

14 августа 1920 года

Несмотря на приказ Уездревкома №3 от 24 июля сего года, граждане Слонима и его уезда продолжают спекуляцию с денежными знаками различных выпусков: думскими, керенками, советскими и так называемыми царскими.

Ввиду того Слонимский Уездвоенревком вторично приказывает:

1. Всем гражданам г. Слонима и его уезда не делать никаких предпочтений одним денежным знакам перед другими.

2. Милиции строго следить за выполнением сего напоминания, в особенности во время торговли на рынке и в разного рода лавках.

Виновные, как в нарушении сего приказа, так и в пособничестве сему, будут подвергнуты тюремному заключению в течении трех месяцев и конфискации всего имущества.

Предуездревкома Николаев
Член Крупенин
Секретарь Гольдберг

**Падрыхтаваў Сяргей ЁРШ**

НАШ ФОТАКОНКУРС

# "У АБ'ЕКТЫВЕ — ДЗЕЦІ"


Побач з дзедам


Вартаўнік

Добры дзень, рэдакцыя "ГС"!

Даўно выпісваем вашу газету, яна вельмі цікавая і разнастайная. Мы з задавальненнем сочым за яе выхадам, чытаем кожную старонку. У жнівеньскім нумары газеты мы прачыталі аб новым фотаконкурсе "У аб'ектыве — дзеці" і вырашылі даслаць фотаздымкі нашага сына Арцёма. Мы ўжо даволі даўно фатаграфуем яго. Сыну 5 гадоў, ходзіць у Вішаўскі дзіцячы садок, цікавіцца тэхнікай і нават, калі бацька яго садзіць за руль, можа сам кіраваць аўтамабілем. У нашым сямейным архіве вельмі шмат яго здымкаў, але выбралі для конкурсу лепшыя.

Сям'я МІХАЛЬЧЫКАЎ, вёска Навасёлкі



АНЕКДОТ *из Интернета*

➡ Звонок в дверь. Хозяин открывает и видит — за дверью ОГРОМНЫЙ барабан, к нему сверху приделаны тарелки... за барабаном кто-то стоит.

Хозяин: -....Вам кого?

Человек с барабаном: - Простите, это у вас похороны?

Х: - Нет.... доктор сказал, еще три дня осталось....

ЧСБ: - Ради бога извините....простите...

Человек с барабаном кое-как разворачивается и уходит. Через некоторое время снова звонок в дверь. Хозяин снова открывает. Там все та же картина.

Хозяин раздраженно спрашивает: - Чего вам?

ЧСБ: - Извините, можно я у вас пока барабан оставлю?

➡ Кириенко: «Я удержу рубль в пределах девяти за доллар.»

Черномырдин: «А я - в пределах семи.»

Ельцин: «Удерживай!»

➡ Вопрос: Какая разница между одним рублем и одним долларом?

Ответ: Один доллар.




# ВИДЕОТЕКА

**Новинки от студии Video-Lux**

**Прокат видеокассет: магазин «Юбилейный».**

### ЗАЛОЖНИКИ

Триллер 85 мин. 1998 г.

Режиссер: Крэйг Баксли.

В ролях: Чарли Шин, Мэйр Уиннигем.

Профессия пожарных экстремальна в том смысле, что они по долгу службы должны лезть туда, откуда все прочие граждане бегут, должны рисковать своей жизнью, спасая жизни других. Лайл Уайлдер во время очередного пожара спас ребенка из горящего дома, в котором подпольные дельцы изготавливали наркотики. Лайл стал героем. Его признали пожарным года. Но в связи с такой работой нервы Лайла начинают сдавать, у него часто плохое настроение, его раздражают соседские дети, которые шумят, его раздражает мастер по ремонту холодильников, который перепутал адрес и по ошибке зашел к Лайлу в дом, за что и поплатился жизнью. Многие люди становятся заложниками вышедшей из-под контроля психики Лайла.

### ГОРОД АНГЕЛОВ

Мелодрама 112 мин. 1998 г.

В ролях: Николас Кейдж, Мег Райан

Есть такая больница в Нью-Йорке, где работает первоклассный врач, хирург, на операционном столе которого никогда не наступает смерть человека. Все больные, которым предстоит операция, хотят попасть к этому врачу, и все прооперированные больные благодарны судьбе за такой подарок. Даже ангел является к этой молодой женщине-врачу, чтобы поблагодарить ее за спасение человеческих тел и душ. И в награду за ее золотые руки судьба посылает ей огромную любовь.

### ВОСХОД МЕРКУРИЯ

Боевик 120 мин. 1998 г.

В ролях: Брюс Уильямс.

Маленький, одаренный мальчик расшифровывает секретный код, напечатанный в журнале головоломок. На разработку этого кода ЦРУ потратило много денег, и поэтому встал вопрос, то ли убрать этого единственного человека, то ли потратить такую же сумму денег на разработку нового кода. ЦРУ решает убить мальчика, но на его защиту становиться отважный полицейский.

### СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ — 4

Боевик 1998 г.

Режиссер: Ричард Доннер

В ролях: Мэл Гибсон, Дэнни Гловер, Джо Пеши, Рене Руссо.

Время неумолимо бежит вперед. У напарников Мартина и Роджера новый партнер — мл. детектив Лео. Ригс и Лорна по-прежнему влюблены и ждут ребенка. У Роджера в семье ЧП — дочь Рианна беременна и не желает сообщить имя отца ребенка. На службе им подбросили темное дело с азиатскими контрабандистами. Расследуя это дело, они выходят на главу "Азиатской Триады" Уаха Синга Ку, готовящего теракт. Но положение осложняется. Лео Гетц пытается помочь своим друзьям.

**У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістравалі шлюб:**



Абрамовіч Аляксандр і Гарун Ірына

Вянсковіч Аляксандр і Крыўда Іна

Алейнікаў Ігар і Баброўская Наталля

Зайкоўскі Сяргей і Гурноўская Нэлі

Чарняўскі Сяргей і Мялешка Наталля

Пархута Міхаіл і Лішык Таццяна

Капелька Сяргей і Шалык Ала

Шэўчык Сяргей і Духоўнік Наталля

**ШЧАСЦЯ ВАМ!**

**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Сергіенка Анжэла, Сапач Андрэй, Грыпіч Коля, Свешнікава Насця, Рэмез Інга, Зізенка Дзіма, Яневіч Рустам, Боцька Саша



**КАГО НАМ БУСЕЛ ПРЫНЁС?**

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

**НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ АДЫШЛІ НАЗАЎЖДЫ:**

| | |
|---|---|
| **Малец** Ганна Аляксееўна | 1924 г.н. |
| **Філітовіч** Ніна Іосіфаўна | 1921 г.н. |
| **Кулеш** Веньямін Сцяпанавіч | 1944 г.н. |
| **Яромаў** Павел Міхайлавіч | 1920 г.н. |
| **Абрамовіч** Леанід Канстанцінавіч | 1944 г.н. |
| **Мацюк** Мікалай Іванавіч | 1952 г.н. |
| **Столяр** Уладзімір Фёдаравіч | 1942 г.н. |
| **Яўхута** Васіль Васільевіч | 1925 г.н. |
| **Шэндзік** Валерый Фёдаравіч | 1952 г.н. |



## Одностишия

***

Вы киллер или просто для души?

***

Не пудри... милый, плагиатом.

***

Но разве мы знакомы? Что ж — гордитесь.

***

А я-то думала, что ты поэт, в натуре!

***

Не говори так много — я не вечен.

***

О, лучше бы я вас раздел глазами!

***

Неужто муж? А выглядит прилично...

***

Неравный брак для имиджа полезен...

***

Вежливое нахальство — путь к победе.

***

Когда двое сражаются, побеждает третий

КРОССВОРД *от Владимира ВАШУТЫ*

**Слова вписываются вокруг цифр по часовой стрелке, начиная с клетки со штрихом.**



1. Сельское кладбище. 2. Небольшая рыба (род плотвы). 3. Реакционная теория о неравноценности рас. 4. Путь движения небесного тела. 5. Разногласие, ссора, вражда. 6. Сознание. 7. Нижний ярус лож на уровне партера. 8. Город на западе США, административный центр штата Колорадо. 9. Искусственная часть тела. 10. Брат мужа. 11. Город в северо-восточном Китае. 12. Город и порт в Корее. 13. Хвостатое земноводное из семейства саламандр, похожее на ящерицу. 14. Разработанный план создания, устройства чего-нибудь. 15. Мера жидких и сыпучих тел (немного больше литра) в некоторых странах. 16. Военное лечебное учреждение. 17. Поселок городского типа в Ростовской области. 18. Состояние, похожее на сон, вызываемое внушением. 19. Ураган разрушительной силы. 20. Город в Тибетском автономном районе Китая. 21. Горизонтальный выступ на верхней части здания, над окном, дверью. 22. Город в Перу, на реке Уальяга. 23. Невысокое заграждение, перегородка. 24. Внутренность живота. 25. Металлическая рамка для патронов.

**ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№35)**

**По горизонтали:** **5**. Багратион. **6**. Стипендия. **12**. Кожедуб. **14**. Кибитка. **15**. Бакалея. **16**. Серп. **17**. Пруд. **18**. Индия. **19**. Пьеса. **20**. Ядро. **22**. Нрав. **23**. Алфавит. **25**. Ондатра. **26**. Наречие. **27**. Кабриолет. **30**. Пансионат.

**По вертикали:** **1**. Раструб. **2**. Крап. **3**. Этен. **4**. Полиция. **7**. "Ермак". **8**. Комендант. **9**. Чемпионат. **10**. Диспансер. **11**. Оккупация. **13**. Бацилла. **14**. Кельвин. **21**. Шасси. **23**. Аргамак. **24**. Такелаж. **28**. Ряса. **29**. Обод.

# Гороскоп

14 — 20 сентября от Тамары Глоба

**ОВЕН (21.3-20.4)**

В четверг и пятницу ждите прибыли, но проявите внимание к финансовым документам. Контракты принесут споры и потери в пятницу, субботу и воскресенье. Отложите договора на более выгодный момент. Таким днем может быть среда во второй половине, но только до вечера. Осторожно за рулем вечером в среду.

**ТЕЛЕЦ (21.4-20.5)**

Всегда и во всем будьте осторожны, особенно в отношениях с лживыми представителями противоположного пола. В четверг ждите подвоха. Он может проявиться позже. Пятницу посвятите личным делам, не принимайте серьезных решений в воскресенье. Среда принесет конфликты и потери. Наиболее оптимальными днями для прибыли, торговли, договоров, личного успеха можно считать понедельник и вторник.

**БЛИЗНЕЦЫ (21.5-21.6)**

Избегайте важных встреч и серьезных решений в четверг и пятницу. Это дни потерь. Берегите кошелек. Отдохните в выходные. Все договоры пройдут впустую. Не сотрясайте воздух словами и бранью. Хорошие для прибыли, решения личных вопросов и реализации дел через посредников понедельник, вторник и среда во второй половине дня.

**РАК (22.6-22.7)**

Планы меняются. В эту неделю необходимо разобраться в том, что еще не сделано. Возникнут споры с близкими и на службе. Приведите дела в порядок. Не заключайте никаких новых договоров и контрактов. Дела торговли идут посредственно, а могут и сорваться. Лучшими в решении личных дел могут быть понедельник и вторник. Если будете решать в эти дни все сами, без посредников и помощников, справитесь как нельзя лучше. В среду берегите деньги. Не делайте покупок.

**ЛЕВ (23.7-23.8)**

Ждите нареканий в четверг, пятницу. Планы изменятся в конце недели. Однако дела прибыли, несмотря на различные проблемы, идут хорошо. Среда день коварный. В первой половине избегайте контрактов, договоров и покупок — больше потеряете. В середине дня есть шансы выигрышей и прибыли, любви и решения личных дел. Поздним вечером ждите потерь и неприятностей, особенно за рулем. В дороге будьте осторожны и в четверг, пятницу.

**ДЕВА (24.8-23.9)**

Не полагайтесь на свой язык и старые контакты. Споры и сплетни, разбирательства и разборки уже на пороге. Берегите близких и не портите с ними отношения. Домашние дела требуют внимания. В конце недели возможны потери. Для контрактов и торговли, договоров и учебы время не слишком удачное. Выберите вторник для решения всех своих вопросов. Вторник и среда удачны для путешествий.

**ВЕСЫ (24.9-23.10)**

В четверг и пятницу ждите финансовых потерь. Не отправляйтесь в путь в эти дни, а также в среду. Берегитесь аварийных ситуаций в конце недели. Суббота удачна для дороги, любви, прибыли и дружеских встреч. Все решается легко. В воскресенье не спорьте с представителями власти и сослуживцами.

**СКОРПИОН (24.10-22.11)**

Вам не избежать разбирательств. Обратитесь к своим покровителям и новым знакомым. Возникли новые планы, но они еще требуют доработки. Отличные дни для переговоров, деловых встреч, торговли и путешествий понедельник и вторник. Спешите решить все свои дела. Со среды ждите подвохов.

**СТРЕЛЕЦ (23.11-21.12)**

Как бы вам не влипнуть в авантюру в четверг и пятницу. В выходные ждите неприятных разборок с представителями власти, близкими, сослуживцами. Разрушения и потери. Ничего не остается, как ждать более благоприятного периода. Вдали от дома тоже не спрячешься. Будьте скромнее, больше молчите.

**КОЗЕРОГ (22.12-20.1)**

Личные проблемы нагрянут как снег на голову. Эти обстоятельства могут приостановить ваши планы. Возникнут разногласия на службе. Не переносите личные дела на служебные отношения. Крепитесь. Параллельно появятся хорошие возможности по делам прибыли издалека. Удача возможна в сотрудничестве с коллективом. Ждите хороших вестей. Если есть шанс отдохнуть, лучшее время вы проведете в познавательной поездке. Там вас ждет любовь и прибыль. Купите в пятницу вечером себе подарок, дорогие вещи или хорошую одежду.

**ВОДОЛЕЙ (21.1-19.2)**

Не стоит держаться за эфемерное. Пришли перемены. То, что вы умете станет вашим козырем и принесет успех. Ждите споров и кризиса в четверг и пятницу, а также в среду. Выходные посвятите отдыху и любви. Это дни для души. Прогоните лишних. Рабочие дела можно решить легко в понедельник и среду.

**РЫБЫ (20.2-20.3)**

Вам необходимо последить за родственниками. Ждите проблем в договорах в четверг и пятницу в первой половине дня. Эти дни неудачны для торговли, прибыли, важных встреч и принятия решений, но суббота и воскресенье тоже не дадут отдыха. Займитесь делами домашних. Лучшие дни, когда вы можете решить все свои проблемы понедельник и вторник. В среду будьте готовы к спорам на службе.

**Стоимость рекламных площадей для организаций.**

В газете применяется модульный метод размещения рекламы. Размер одного модуля — 4х4 см; его базовая стоимость — 240 000 руб.

**Система скидок за:**
последовательное размещение:
- 5 номеров (месяц) -10%
- 9 номеров (2 месяца) -15%
- 13 номеров (3 месяца) -20%
- 26 номеров (полгода) -30%
- 52 номера (год) -40%

публикацию рекламных статей -25%
надбавка за публикацию на:
1 полосе +100%
программе +50%

**Контактные телефоны:**
(01562) 2-14-39 - факс
(017) 210-87-17

**Заполняем купон бесплатного объявления.**

1. Лучше будет, если то, что вы продаете (покупаете, меняете) будет названо первым словом.
2. Желательно укажите цену: это избавит вас от множества любопытных, и люди не будут думать, что продаваемая вами вещь дорого стоит, раз вы не указали цену.
3. Неразборчиво заполненые купоны не рассматриваются
4. **Объявления коммерческого содержания на купонах не принимаются.**
5. Публикуется объявление, где указана только одна вещь, чтобы прорекламировать следующую вещь или вид услуги необходимо заполнить новый купон.

